DISTRICTUS

# ПАВЕТ






ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 12 (25) СНЕЖАНЬ 2003 г.



Абраз Божай Маці з Друйскай царквы Св.Спаса. XVIII ст.

* * *

*Ларыса Геніюш*

Не пазнаю цябе, мой Краю,
Нявечыць людзкасьць лад чужы,
І прадзедаў зямля чужаю,
І толькі нашыя крыжы.
І толькі нашыя магілы,
Старыя ў полі курганы –
Няўжо й мінуласьць нашу скрылі
Пад тоўстым насыпам яны?
Чужым нам ў сэрцы цэляць словам,
Каб насьмерць роднае забіць,
Лучынай гасьне наша мова,
Чужая – лагерам гучыць.
Ад сухавеяў, што з усходу,
Плытчэе Нёман у берагах,
Душа малее у народу,
Мрэ песьня, як падбіты птах.
Ў няволі крыльляў не разгорне
Ні птах, ні песьня, ні душа.
Нат белы дзень здаецца чорным,
Хоць быў жа сонечны сьпярша.
Чужы палон, прыгон адвечны
Махлярствам душы гне і злом,
Ніжэй ўсё нам згінаюць плечы
Нейкім нябачным бізуном.
Стаяць над намі ўсе чужыя
Ды сьцёбаюць да працы нас,
Як быццам страшнага Батыя
Вярнуўся незабыты час ...

* * *

Гэты святочны нумар "Павета" з'яўляецца юбілейным. За тры няпоўныя гады падрыхтавана 25 выпускаў. Мы ўдзячны ўсім, каго "Павет" аб'ядноўвае. Вялікі дзякуй аўтарам, зацікаўленым чытачам, крытыкам.

**Будзьма і надалей разам!**

# ВЕСТКІ

На старонках «Павета» ужо пісалася пра аквалангістаў-прайдзісветаў, якія здабылі з возера і звезлі два званы Замошскай царквы. Нячыстых на руку аматараў скарбашукальніцтва ўдалося ўстанавіць – сляды вялі да ваколіц Мінска. Званы былі вернуты на Браслаўшчыну і неўзабаве званіца храма ажыве роднымі галасамі. У вадзе застаюцца яшчэ пяць званоў. Людзей хвалюе, каб яны не былі звезены патаемна.

Увогуле Браслаўшчына – рэгіён, дзе ёсць праца для аквалангістаў. Тут існавалі два астраўныя замкавых умацаванні, астраўны манастыр. Ёсць звесткі пра тэхніку, якая затанула ў азёрах падчас войнаў, званы ад храмаў, што пакояцца на дне. Ды і помнікі зрынутым правадырам на Браслаўшчыне часта не закопвалі, а кідалі ў ваду. У апошнія гады колькасць нелегальных пошукавых груп павялічылася. Іх штурхае сюды жаданне зарабіць на продажы рарытэтаў.

❐ ❐ ❐

13 снежня адзначыла свой 410-гадовы юбілей школа ў былым мястэчку Іказнь. Іказнь вядома як адно з уладанняў Сапегаў, якія ў пачатку XVI ст. збудавалі на востраве замак.





16 ліпеня 1593 г. знакаміты Леў Сапега, канцлер Вялікага княства Літоўскага, фундаваў касцёлы ў Іказні і Новым Пагосце. У грамаце згадваецца школа, якая павінна была быць адчынена пры Іказненскім касцёле. У 1596 г. Л.Сапега дадае да асноўнага фундушу яшчэ шэраг уладанняў. Для парафіяльнай школы была адпісана мытная і гарэлачная арэнды ў мястэчку. У 1781 г. парафіяльная школа налічвала 14 вучняў.

У XIX – пач. XX стст. у Іказні дзейнічалі дзяржаўныя навучальныя ўстановы ніжэйшага ўзроўню, у 20–30-я гады – пачатковая польская школа. У савецкі час была адчынена сярэдняя школа.

Сённяшняя сярэдняя школа лічыць сябе спадкапераемніцай той невялічкай школкі, аб адкрыцці якой клапаціўся Леў Сапега.

❐ ❐ ❐



Цэнтр дзіцячай творчасці правёў раённы конкурс фларыстаў і кветкаводаў-дызайнераў. Удзельнічалі прадстаўнікі каля 10 школ Браслаўшчыны. Конкурс праводзіўся па двух намінацыях. У намінацыі фларыстыка канкурсанты прывозілі падрыхтаваную дома кампазіцыю на тэму “Зімовы пейзаж” і на такую ж тэму складалі кампазіцыю ў прысутнасці журы. Пераможцамі сталі прадстаўнікі Браслаўскай гімназіі. У другой намінацыі прадстаўляліся матэрыялы па аздабленню кветкамі і дэкаратыўнымі раслінамі школьных тэрыторый.

Клуб “Ля возера”, які існуе пры Браслаўскім музейным аб’яднанні, у трэці раз пацвердзіў званне народнага калектыва. Клуб аб’ядноўвае больш за 50 чалавек, якія займаюцца традыцыйнымі рамёствамі і самадзейным мастацтвам. У бягучым годзе творы ўдзельнікаў клуба дэманстраваліся на выставах у Браславе, Наваполацку, Мінску, Нясвіжы, Віцебску, Маскве. Зараз ідзе падрыхтоўка да выніковай гадавой выставы “Калядныя ўзоры”, якая працуе з 26 снежня ў выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры.



❐ ❐ ❐

Да Калядаў моладзь Браслаўскай каталіцкай парафіі падрыхтавала спектакль “Прыгоды Святога Мікалая” па п’есе Ірыны Жарнасек, які 25 снежня быў паказаны на сцэне раённага Дома культуры (на здымку – фрагмент спектакля). Пастаноўка аказалася вельмі відовішчнай і была цёпла сустрэча гледачом, пераважна моладдзю. Глядзельная зала Дома культуры, што бывае не так часта, была перапоўнена.



# ВЕСТКІ

У мінскім касцёле Св.Роха на Залатой Горцы выяўлена раней невядомая мастацтвазнаўцам карціна Пётры Сергіевіча, вядомага беларускага мастака, нараджэнца Браслаўшчыны. Гэта абраз "Узнясенне Маці Божай" напісаны алейнымі фарбамі на палатне ў 1944 г. менавіта гэта дата пазначана на адвароце рамы, побач – аўтограф мастака. Карціна знаходзіцца ў захрысціі. Інфармацыю пра карціну разам з фотаздымкам перадаў у музейнае аб'яднанне мінскі мастак Уладзімір Кандрусевіч. Музей мае невялікі збор прац П.Сергіевіча, некаторыя з якіх прадстаўлены ў экспазіцыі, а таксама фармуе калекцыю матэрыялаў пра мастака.



Дзякуючы Юзафу Далецкаму з Жэшува і Марыі Ганушак з Ольштына музейная бібліятэка папоўнілася снежаньскімі нумарамі бюлетэняў, якія выдаюцца арганізацыямі выхадцаў з Браслаўшчыны ў Польшчы.

«Браслаўскі ліст», які выходзіць ў Сталёвай Волі пад рэдакцыяй З.Пашкевіча паведамляе аб выставе, прысвечанай Браслаўшчыне, якая плануецца ў Этнаграфічным музеі ў Гданьску на другую палову 2004 г. выстава прадставіць у асноўным матэрыялы былых жыхароў Браслаўшчыны, якія выехалі на сталае жыццё ў Польшчу. Таксама публікуюцца ўспаміны былога настаўніка школы ў Гайлешах Юзафа Раманоўскага, успаміны З.Пашкевіча пра святкаванне Калядаў пад час высылкі ў Казахстан, хроніка жыцця Браслаўскага аддзела Саюза палякаў Беларусі.

«Браслаўска-ольштынскі бюлетэнь», які рэдагую Марыя Ганушак змяшчае інфармацыю пра «Браслаўскія чытанні» у Браславе. Надрукаваны матэрыялы пра абставіны смерці і пахавання лакара С.Нарбута. Дарэчы, некаторыя з іх падрыхтаваны на падставе артыкула выдання «Павет». Рэдактар апісвае экскурсійныя паездкі ў Літву, Украіну, якія адбыліся летам 2003 г. Ёсць інфармацыя аб тым, як браслаўяне Ольштына склалі віншаванні папе рымскаму Яну Паўлу II у сувязі з 25 гадовым юбілеем яго Пантыфікату.



У Музеі традыцыйнай культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё традыцыйнай выставы "Калядныя ўзоры". На ёй дэманструюцца лепшыя творы народных майстроў Браслаўшчыны. У гэтым годзе ў выставе ўдзельнічаюць працы больш як 30 майстроў. Настрой выставе задае адмысловая ялінка, зробленая з папяровых выцінанак і аздобленая сняжынкамі-сурвэткамі. На адкрыцці перад шматлікімі гледачамі выступіў аркестр народных інструментаў з Цэнтра дзіцячай творчасці.





Выстава засведчыла даволі высокі ўзровень большасці народных майстроў Браслаўшчыны. Відавочна ўзрастанне цікавасці розных слаёў насельніцтва да твораў традыцыйнай культуры.

Напярэдадні святаў рэдакцыя «Павета» атрымала шэраг віншаванняў. Рыжанка Вера Баладэ піша: «*Віншую свой любімы горад Браслаў, а таксама ўсіх яго жыхароў ...!*» В.Баладэ жадае каб горад заўсёды квітнеў, каб моладзь больш паважліва ставілася да старажылаў, не шкадавала добрых слоў пенсіянерам, а яшчэ каб у Браславе было больш вяселляў. Марыя Ганушак з Ольштына (Польшча) адзначае ў сваім лісце, што выданне «Павет» чытаюць выхадцы з Браслаўшчыны і знаходзяць у ім шмат цікавых матэрыялаў. «*Браслаўшчына наша агульная Айчына, там нашыя карані ад прадзедаў-дзядоў, хацелася б каб жылі мы ў вялікай згодзе, сяброўстве, любові. Мы пачуваемся выгнанцамі з роднай старонкі, але нас выгналі не браты-беларусы, а злачынны сталінскі рэжым. На гэтым трэба паразумецца. Таму жадаем наведваць Браслаўшчыну і размаўляць з вамі*», – піша М.Ганушак.

Найлепшыя зычанні і святочныя віншаванні даслаў таксама даўні сябра нашага выдання, музея, Браслава Юзаф Далецкі з Жэшува (Польшча).



Калядная ялінка ад Валеры Зінкевіча і Тамары Ундруль

**Вітаўт Ермалёнак**

*Артыкулы*

# Сядзіба ў Каменполлі

У гэтым годзе спаўняецца 130 год пабудовы сядзібнага дома ў Каменполлі. Гэта мясцовасць здаўна была ўладаннем вядомага роду Мірскіх, герба «Бялыня». Каменполле вылучаецца тым, што яно было іх радавым гняздом на працягу амаль 450 год. У гісторыі Мёршчыны, па старадаўнасці ўладання можна параўнаць з Навалакай. Род Мірскіх, як ніводзін іншы, адыграў значную ролю ў гісторыі нашай мясцовасці. Так, харунжымі былі ў другой палове XVI ст. Рыгор Мірскі, Мірскі Юзэф Антоні 1718-1736, ён жа быў і маршалкам Браслаўскай шляхты. Падкаморымі Браслаўскімі былі Васіль Мірскі 1611-1623, Мірскі Кшыштоф Себасцянавіч, Казімір 1678-1680, Багуслаў Мірскі 1782-1794. Неаднойчы Мірскія былі і суддзямі земскімі Браслаўскімі: Мірскі Рыгор 1598-1613, Мірскі Себасцьян 1625-1636, 1641, Мірскі Ігнат 1789-1791. Мірскі Цыпрыян быў у 1762 г. земскім пісарам. Род Мірскіх прымаў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху. Падчас паўстання Касцюшкі ўваходзілі ў паўстанцкі ўрад Літвы, ваявалі са зброяй ў руках ў 1831г. Уладальнік Каменполля Людвік Мірскі разам з дачкой ўдзельнічаў у 1861 годзе ва антыўрадавай дэманстрацыі ў Друі. Археалагічныя даследванні, праведзеныя археолага-краязнаўчым гуртком «Арганаўты мінулага» сведчаць, што першы сядзібны дом існаваў ў Каменполлі яшчэ ў XVII ст. Знойдзены фрагменты кафлі XVII - XVIII ст. Асаблівай прыгажосцю вылучаецца кафля з зялёнай палівай з барэльефам анёла. Род Мірскіх быў заўсёды глыбока веруючым, таму не шкадавалі грошай на будаўніцтва святыняў. Так, яшчэ у 1641 г. суддзя земскі Себасцян Мірскі фундуе грошы на касцёл, праваслаўную царкву і манастыр у Мёрах. А побач з сядзібай у Каменполлі пабудавана капліца, якая існавала яшчэ ў XVIII ст. Ян Святаполк-Мірскі быў фундатарам і намеснікам старшыні камітэта па пабудове ў 1905 г. велічнага неагатычнага касцёла касцёла.

У сярэдзіне XIX ст. старая сядіба прыйшла ў заняпад. Новы гаспадар Каменполля Вяслаў Адольф-Юльян Святаполк-Мірскі вырашыў пабудаваць новы дом і абнавіць парк. У 1873 годзе працы па пабудове былі закончаны. Нягледзячы на перабудову ў 70-я гады XX ст., сядзіба захавала амаль цалкам свой першапачатковы выгляд. Гэта вялікі аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак, мураваны з цэглы. Пры ўваходзе 6-калонны ганак, над якім размяшчалася мансарда з чатырма вокнамі. У той час дах быў пакрыты гонтай. Планіроўка дома была калідорная. У 10 пакоях месціліся: гасцінная, вялікая зала, кабінет гападара, пакой для дзяцей, спальня, сталовая, кухня. Інтэр'ер пакояў быў даволі сціплым. Мэбля ў асноўным была зроблена мясцовымі майстрамі. Паколькі Мірскія былі заядлымі паляўнічымі, то сцены кабінета гаспадара былі ўпрыгожаны паляўнічымі трафеямі і паляўнічай зброяй. Яшчэ ў XVIII ст. экспедыцыі рускага географа Ляпёхіна было даручана забраць з Каменполля старадаўнія дакументы і рукапісы. Таму на той час у бібліятэцы сядзібы не было старадрукаў, але яшчэ перад другой сусветнай вайной захоўваліся дакументы і кнігі XVIII – XIX ст. на польскай, рускай, нямецкай, французскай мовах. Кнігазбор быў пераважна мастацкай літаратуры, але былі працы французскіх асветнікаў, гісторыкаў і філосафаў. Некалькі з іх трапіла ў фонды музея СШ №3. Сцены пакояў былі ўпрыгожаны партрэтамі роду Мірскіх, а таксама карцінамі вядомых беларускіх мастакоў XIX ст. Ацяпляліся пакоі чатырма кафельнымі печамі з белай , зялёнай і блакітнай кафлі. Да сёняшняга дня захаваліся толькі дзве з іх. Яны выраблены з белай кафлі ў стылі класіцызма і ўпрыгожаны медальёнамі на антычны сюжэт.

Пры Вяславе Святаполк-Мірскім былі пабудаваны шматлікія неабходныя для гаспадаркі пабудовы. Асабліва цікавай была лядоўня, якая праіснавала больш за сто год. Пабудова мела два ярусы, чатырохсхільны дах, пазней ашалявана дошкамі. Зімою мужчыны нарыхтоўвалі лёд, які вазілі і складалі ў ніжні ярус, заглыблены ў зямлю. Лёд засыпалі кастрой і апілкамі і ён захоўваўся ўсё лета да наступнай зімы. Мірскія захоўвалі тут малочныя прадукты, свежую рыбу, як у сучасным халадзільніку. Яшчэ два будынкі былі пабудаваны ў 1907 г.: стайня і кузня. Стайня была пабудавана з чырвонай цэглы ў неагатычным стылі. Кожнаму, хто пад'язджае да Каменполля, здаецца, што бачыць не стайню, а казачны замак. Такое ўражанне ствараюць перш за ўсё маляўнічыя вежачкі, высокія шчыты, вузкія, як байніцы, вокны, магутныя брамы. Кузня была квадратнах памераў, але здзіўляла сваёй магутнасцю, таму што была пабудавана не толькі з цэглы, але перш за ўсё з вялікіх камянёў-валуноў. У кузні працаваў род Ашуркаў. Стайня зараз патрабуе тэрміновай рэстаўрацыі, а кузня была разбурана ўшчэнт у 80-я гады XX ст.

На аснове старага парка ў 1873 годзе Вяслаў Мірскі пачынае ствараць новы парк, які захаваўся часткова да нашага часу. Плошча яго складала больш гектара. Акружаны ён быў вялікім садам, у XIX ст. плошча 6 га, 1000 гатункаў дрэў яблык і вішняў. Галоўную вось парка складала старая алея з дубу. Па перыметру парка знаходзіліся каштанавыя і ліпавыя алеі. Падчас вялікіх маразоў 1940 г. частка экзатычных дрэў вымерзла. Насупраць сядзібы захаваліся дзве лістоўніцы, пасаджаныя як сімвал кахання апошніх гаспадароў сядзібы: Вяслава і Станіславы. У парку былі пабудаваны шматлікія альтанкі, вабілі вока прыгожыя, карункавыя драўляныя мосцікі праз каналы, якія ахінапі парк з трох бакоў. Каналы былі злучаны з Асінаўскім возерам, таму ўладальнікі маёнтка на лодках часта плавалі ў касцёл. Дарожкі ў парку заўсёды пасыпаліся жоўтым пясочкам, тут часта гулялі як гаспадары сядібы, так і госці. Для лепшага агляду ў паўночнай частцы парка быў насыпаны штучны пагурак. Даглядаў сад і парк садоўнік Міхал Рачыцкі. Ён штогод лазіў па дрэвах і абразаў галінкі, за што ён і яго нашчадкі атрымалі мянушку "Шпак". У парку пан разводзіў вінаградных смаўжоў, якіх нейкі час прадавалі ў Францыю. Для сябе і мясцовых сялян Вяслаў Мірскі пабудаваў новую драўляную капліцу, якая размяшчалася побач з дарогай. У ёй знаходзілася вельмі старажытнае распяцце, абразы. І гэты помнік драўлянага дойлідства быў знішчаны ў 50-я гады XX ст. падчас барацьбы з рэлігіяй.

Мірскія былі добрыя гаспадарнікі. Акрамя вырошчвання збожжа, лёну, бульбы, прыбытак прыносіў сад (у 19 ст. 300 рублёў ў год). Непадалёку ад маёнтка былі сажалкі з дамбамі, там разводзілі карпаў. Быў млын, які дзейнічаў за кошт конскай сілы. За дзень можна было змалоць 300-400 кг зерня. Адзін з вялікіх камянёў млына можна пабачыць і сёння. У 20-я гады большасць зямлі здавалася ў арэнду. Працавалі за хлеб, або за грошы. Мірскі заўсёды разлічваўся своечасова і справядліва. Калі ў селяніна здаралася няшчасце: пажар або памарак жывёлы, пан заўсёды аказваў дапамогу. На стайні вісеў звон, у яго званілі, калі быў абед. Нават коні спыняліся на яго гук і не рушылі з месці нават пасярод дарогі. Перад пачатакам вайны Мірскі меў статак у 100 кароў, якія даілі 15 жанчын.

Вяслаў Мірскі быў заўзяты паляўнічы, трымаў шмат паляўнічых сабак. Да яго часта прыязджалі госці з Польшчы. Заўсёды рабіў так, каб госці маглі ўпаляваць хоць дзіка, ваўка або зайца.

Вяслаў Мірскі меў вялікую сям'ю: пяць дачок – Зося, Ванда, Стася, Марыся, Яна і сын Янэк. Дзеці вучыліся ў Друйскай і Дзісенскай гімназіях. Далей працягвалі вучобу ў Вільні і Польшчы. Падчас вайны, пасля нападу партызан брыгады Ракасоўскага на маёнтак, сям'я Мірскіх стала жыць ў Мёрах, а ў 1944 годзе назаўжды пакінула сваё радавое гняздо. Спачатку сядзіба выкарыстоўвалася, як мёрская раённая бальніца, потым сядзіба калгаса «Праўда», клуб, дзіцячы садок, пачатковая школа. Калгас не здолеў па-гаспадарчаму распарадзіцца маёнткам, які з кожным годам прыходзіў у заняпад. У 1991 годзе была спроба аднаўлення сядзібна-паркавага комплекса «Каменполле», але значна пагоршылася фінансавае становішча гаспадаркі і планы не здзейсніліся.

## Выдавецкія навіны




*Напрыканцы 2003 года пабачыла свет кніжка "Браслаўшчына: прырода і людзі". Выданне падрыхтавана музейным аб'яднаннем па замове Браслаўскай інспекцыі па ахове навакольнага асяроддзя. Некалькі гадоў таму тагачасны начальнік інспекцыі М.Падалян звярнуўся ў музей з прапановай напісаць брашуру, прысвечаную прыродзе Браслаўшчыны, яе ахове. Здавалася, зрабіць гэта будзе не цяжка, аднак на пачатку працы аказалася, што тэкст выходзіць не вельмі цікавым, падобным на ўжо шматлікія публікацыі па гэтай тэме. Тады нарадзілася ідэя сабраць у адно месца матэрыялы, якія датычацца ўзаемаадносін прыроды і чалавека на Браслаўшчыне ў гістарычнай рэтраспектыве. Багатыя музейныя зборы дазволілі гэта зрабіць. У выніку атрымалася гістарычнае выданне, у якім прасочваецца як у розныя часы складваліся ўзаемаадносіны чалавека і прыроды, які ўплыў аказвала гаспадарчая дзейнасць на прыроднае наваколле і як прыроднае асяроддзе ўплывала на жыццё чалавека. У кнізе ёсць раздзелы: "Прырода супраць чалавека", "Чалавек супраць прыроды", "Храм прыроды", "З гісторыі рыбалоўства", "З гісторыі эксплуатацыі лясных багаццяў", "Запаведаць – значыць зберагчы" і інш. Выданне багата ілюстравана гістарычнымі фотаздымкамі са збораў музея. Ёсць каляровая ўклейка, дзе прадстаўлены цыкл "Браслаўшчына" вядомага беларускага фотамастака Яўгена Казюлі. Кніжка выдадзена мінскім выдавецтвам "Рыфтур" накладам 500 асобнікаў.*

*"Павет" ужо прапаноўваў увазе чытача фрагменты кнігі ("Чалавек супраць прыроды", "Прырода супраць чалавека"). У гэтым нумары друкуем раздзел "Краіна астравоў".*

*Азёрную Браслаўшчыну можна было б назваць і краінай астравоў. Усяго тут налічваецца больш за 100 азёрных ці рачных астравоў (па-іншаму – выспы). Ва ўсёй Беларусі іх каля 200.*

*На возеры Бужа налічваецца 16 астравоў агульнай плошчай 24,9 га, на возеры Неспіш – 15 (0,31 км²), на возеры Снуды – 11 (1,6 км²), на возеры Струста – 7 (2,58 км²), на Богінскім возеры – 8 (32,5 га), на возеры Дрысвяты – 8 (самы вялікі востраў – Замак – мае плошчу 0,26 км²), на возеры Дрывяты – 6 (0,92 км²), на возеры Доўгае – 6 (6,3 га), на возеры Рычы – 5 (5,7 га).*

*Востраў Чайчын на воз.Струста (1,62 км²) і астравы Лакіна (0,5 км²) і Турмас (0,4 км²) на воз.Снуды займаюць адпаведна 2, 3, 4 месцы ў Беларусі па велічыні. Да ліку самых прыгожых астравоў краіны адносяцца: Чайчын на воз.Струста, а таксама Гарадзішча і Церанцейка на Богінскім возеры.*

*Цяпер астравы Браслаўшчыны амаль не закрануты гаспадарчай дзейнасцю, тут уладарыць прырода. У даўнія ж часы яны адыгрывалі больш прыкметную ролю ў жыцці мясцовага насельніцтва. Найбольш адметнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца: астравы пад назвай Замак на азёрах Дрысвяты і Іказнь, востраў Манастыр на воз.Несціш, востраў Гарадзішча на Богінскім возеры, востраў Чайчын на воз.Струста і некаторыя іншыя.*

**Востраў Замак на возеры Дрысвяты**. *Знаходзіцца ў заліве непадалёку ад вёскі Дрысвяты. Паверхня вострава слабаўзгорыстая, на заходняй ускраіне вылучаецца пагорак, абнесены абарончым валам. Вышыня валоў каля 2 м, памеры ўнутранай пляцоўкі – 75х50 м. Схілы пагорка задзернаваны, але месцамі праступае выбрукоўка. Ад асноўнай часткі вострава пагорак аддзяляўся ровам, сляды якога выразна бачны на паверхні. На пагорку знойдзены сляды паселішча другой паловы I тыс.нашай эры. У XI ст. на яго месцы ўзводзяцца ўмацаванні Полацкага княства. Побач з гарадзішчам размяшчалася неўмацаванае паселішча (пасад). Такім чынам, у перыяд Полацкага княства (XI – XIII стст.) на востраве Замак існавала невялікае гарадское паселішча з насельніцтвам каля 300 – 400 чалавек. Напрыканцы XX ст. ва ўрочышчы Пашавіцкі Рог быў знойдзены некропаль гэтага гарадка. У перыяд Вялікага княства Літоўскага на гарадзішчы існаваў замак, які неаднойчы згадваўся ў пісьмовых крыніцах XV – XVI стст. У асноўнай частцы вострава знаходзілася забудова мястэчка Дрысвяты. У замку пабывалі французкі падарожнік Жыльбер дэ Ляпуа (1413 г), вялікі князь Аляксандр Ягелончык з жонкай Аленай (1500 г.). У пачатку XVII ст. замак прыйшоў у заняпад. Інвентар 1622 г. згадвае тры вежы без дахаў, рэшткі драўляных сцен. Каля замка знаходзіўся панскі двор, мястэчка з рынкам, трыма вуліцамі, касцёлам. З берагам востраў злучаўся двума мастамі. Неўзабаве мястэчка згарэла і дзяржаўца Дрысвят гетман Сапега загадаў жыхарам адбудавацца на беразе. На востраве застаўся толькі касцёл, які ацалеў ад пажара. У XVII ст. план вострава выканаў вядомы польскі картограф Ю.Нарановіч-Нароньскі. У гады першай сусветнай вайны (1914–1918 гг.) на востраве існавалі пяхотныя і артылерыйскія пазіцыі расійскіх войск. Салдатамі быў узведзены драўляны мост. У некаторых баявых данясеннях востраў называўся Гурыйскім, бо менавіта падраздзяленні Гурыйскага палка размяшчаліся тут. У мірны час з XVII ст. па першую палову XX ст. на востраве Замак знаходзіліся сельскагаспадарчыя надзелы. Востраў Замак актыўна даследуецца археолагамі. Тут знойдзена шмат рэдкіх, нават унікальных прадметаў. Сярод іх: праселка з надпісам XI – XIII стст., пісала – жалезнае прыстасаванне для пісьма, крыжы-складні XI – XIII стст., шахматная фігурка. Гэтыя экспанаты зберагаюцца ў Браслаўскім музеі.*



**Гарадзішча на востраве Замак воз.Дрысвяты. Фота А.Віслоцкага. 20-я гг. XX ст.**

**Востраў Замак на возеры Іказнь**. *Знаходзіцца ў заходняй частцы возера, побач з вёскай Іказнь. У XVI – XVIII стст. тут існаваў прыватнаўласніцкі замак магнатаў Сапегаў. Умацаванні былі закладзены Іванам (Янам) Сапегам паводле дазвола вялікага князя Аляксандра Ягелончыка, выдадзенага 25 сакавіка 1504 г. На беразе вострава вырасла мястэчка. Даследванні замка праводзіў вядомы гісторык, археолаг Міхась Ткачоў.*

*Замак займаў узвышную частку вострава памерамі 55х30 м. Мураваныя сцены з цэглы і каменя дасягалі двух-*

*метровай таўшчыні. Асобныя ўчасткі ўмацаванняў складаліся з глінянага вала і драўляных канструкцый. Меліся мураваная пяцівугольная вежа і драўляная вежа, існаваў мураваны палацык. Схілы замкавага пагорка ўбок вады забрукоўваліся. Побач з асноўнымі ўмацаваннямі размяшчаўся падзамак, абнесены земляным валам з драўлянымі канструкцыямі. На востраве існавала сажалка для рыбы, якая злучалася з возерам спецыяльнай пратокай. Праз сажалку да брамы замка вёў драўляны мост. Востраў злучаўся з берагам мастом (хутчэй за ўсё наплаўным), які ў выпадку небяспекі хутка разбіраўся. У XVI ст. замак быў цэнтрам вялікіх уладанняў Сапегаў на Браслаўшчыне. Ён моцна пацярпеў падчас войн XVII ст. і быў разбураны ў пач. XVIII ст. Існуе паданне, што непрыяцель доўга не мог авалодаць замкам і ўжо збіраўся зняць аблогу, як раптам на востраў па прытопленаму масту перайшла карова. Услед за каровай на востраў ўварваліся ворагі.*

*Пры падводных даследваннях вострава знойдзены старажытны човен (магчыма, на такіх чаўнах трымаўся мост), баявая сякера XVI ст., кафля.*

**Востраў Манастыр (Кляштар) на возеры Неспіш**. *Знаходзіцца ў паўднёва-усходняй частцы вострава, непадалёку ад вёскі Шавуры. З XV ст. тут існаваў Браслаўскі мужчынскі праваслаўны (з 1635 г. – уніяцкі) манастыр з царквой "Пречистое Матере Божей". Каля 1500 г. манастыр атрымаў багаты фундуш ад вялікай княгіні Алены, жонкі Аляксандра Ягелончыка. Манастыр стаў уладальнікам возера і шэрага навакольных паселішчаў. На востраве размяшчаліся царква, жылыя будынкі. З берагам востраў злучаўся двума мастамі. Рэшткі аднаго з іх і зараз можна ўбачыць у вадзе. Побач з асноўным мастом на беразе возера знаходзіўся заездны двор – аўстэрыя. На суседнім востраве, які называўся Святым, быў устаноўлены крыж. Крыж лічыўся цудадзейным. Манастыр таксама славіўся цудадзейным абразом Маці Божай, да якога збіраліся натоўпы паломнікаў. Вялікія ўрачыстыя набажэнствы адбываліся на полі, што прымыкала з поўдня да возера. У канцы XVIII – пач.XIX стст. манастыр прыйшоў у заняпад і ў 1827 г. быў зачынены. У 1832 г. пажар знішчыў усе будынкі на востраве. Паводле падання, абраз Маці Божай ацалеў і абвясціўся на востраве Святым. Цяпер гэты абраз знаходзіцца ў алтары Браслаўскага касцёла. Ён па-ранейшаму лічыцца цудадзейным. Маці Божую Браслаўскую называюць Валадаркай азёраў, апякункай усёй Браслаўшчыны. Гэта адна з галоўных святынь Віцебскай каталіцкай епархіі. 24 жніўня – дзень шанавання Уладаркі азёраў (дарэчы, ніводзін іншы каталіцкі абраз не носіць такой назвы).*

*Пасля знішчэння пабудоў востраў заворваўся, выкарыстоўваўся пад сенажаць. Цяпер ён інтэнсіўна зарастае.*

**Астравы Гарадзішча і Церанцейка на Богінскім возеры**. *Знаходзяцца ў заходняй частцы возера, непадалёку ад вёскі Богіна. Паводле аднаго з паданняў, на востраве Гарадзішча размяшчаліся ўмацаванні Полацкага княства. Слядоў умацаванняў археолагі на востраве не выявілі. Знойдзены адзінкавыя кавалкі керамікі жалезнага века. Да XIX ст. на Гарадзішчы існавала язычніцкая бажніца, разбураная пры падаўленні паўстання 1863–1864 гг. Ёсць звесткі пра каменнага ідала – стода, які пры знішчэнні бажніцы быў скінуты ў возера. У канцы XVIII ст. астравы засейваліся па распараджэнню дзяржаўцы Опсаўскага староства. У 1794 г. на Гарадзішчы ці на суседнім востраве Церанцейцы хаваліся паўстанцы колькасцю каля 150 чалавек. Цяпер астравы вылучаюцца разнастайнай раслліннасцю, асабліва запамінаюцца магутныя дубы-волаты.*

**Бернардзінскі востраў на рацэ Заходняя Дзвіна**. *Знаходзіцца ў межах гарадскога пасёлка Друя, насупраць былога кляштара бернардзінцаў, заснаванага ў сярэдзіне XVII ст. Востраў належыў манахам, значная частка яго разворвалася. Меліся таксама гаспадарчыя пабудовы. Паводле аднаго з паданняў, кляштар і востраў злучаў падземны ход.*

**Востраў Краснагорка на возеры Снуды.** *Знаходзіцца ў паўночнай частцы возера. Захавалася група ледавіковых валуноў, якая складаецца з вялікай гранітнай камлыгі (даўжыня 4,4 м) і двух камянёў меншага памера. Размяшчэнне валуноў, іх памеры, форма ўказваюць на тое, што на востраве магло знаходзіцца язычніцкае свяцілішча. Група камянёў абвешчана геалагічным помнікам прыроды рэспубліканскага значэння.*

**Астраўныя сялянскія гаспадаркі.** *У апісанні Браслава 1554 года сярод шэрага зямельных уладанняў жыхароў горада названы надзелы на астравах. У дакуменце згаданы "Григор Михнович", які на востраве "...межи озёрами Струсту, Наивицы и Вилойцы..." меў добрай якасці грунту валоку (валока – 21,36 га) і адзін морг (морг – 0,71 га). Там жа жыхар Браслава "Григор Олексы" меў 27 моргаў зямлі сярэдняй якасці. Назвы азёр у дадзеным выпадку моцна зменены і лакалізаваць востраў вельмі складана. Далей у апісанні знаходзім "...остров Юрков над озерем Струстем..", дзе 12 моргаў належыла Івану Ігнатавічу, а 30 моргаў – Цімафею. Апошні меў яшчэ 8 моргаў на трох іншых астравах (Юркоў востраў – цяпер частка вострава Чайчын). Дарэчы, інвентар 1554 г., апісваючы сам Браслаў, адзначае, што горад не можа быць значным паселішчам, бо яму перашкаджаюць навакольныя азёры. Меркавалі перанесці горад у больш зручнае месца. Не выключана, што Браслаў у XVI ст. быў цалкам акружаны вадой і размяшчаўся на вялізным своеасаблівым востраве. На вядомай карце Полацкай зямлі 1579 г., выкананай картографам С.Пахалавіцкім, які быў у Браславе, паселішча паказана на востраве сярод вялікага возера.*

*У розных дакументах XVI–XIX стст. (інвентары, вопісы, апісанні) астравы даволі часта фігуруюць як аб'екты гаспадарання. Напрыклад, у апісанні паселішчаў Браслаўскага каталіцкага дэканата 1784 г. пазначана воз.Бужа з вострвам, "...на якім людзі маюць засевы і сенажаці...", там жа згадваюцца два астравы з сенажацямі на воз.Снуды. У*



**План астравоў Чайчын і Шова на воз.Струста з пазначэннем сельскагаспадарчых угоддзяў. 22 верасня 1881 г.**

*інвентары Опсаўскага староства 1779 г. адзначаецца, што 4 астравы Угорскага (Богінскага) возера засяваюцца жытам. Адзін з інвентароў XIX ст. падзяляў астравы на Браслаўшчыне на тыя, што "...прыносяць карысць..." і тыя, што карысці не маюць. Усе "карысныя" астравы былі дакладна падзелены паміж маёнткамі, сялянамі.*

*Першыя звесткі пра сялянскія астраўныя сялібы сустракаюцца ў дакументах XVIII ст. У апісанні Браслаўскага дэканата 1784 г. згадваецца, што на воз.Струсцянскім ці Струста ёсць два вялікія астравы, на якіх жывуць людзі. Там жа чытаем аб паселішчы Кезікаўшчына, размешчаным на востраве воз.Неспіш (хутчэй за ўсё, паселішча размяшчалася на востраве Доўгім). У XIX ст. неаднойчы згадваліся паселішчы на астравах Юркоў (воз.Струста) і*

*Турмас (воз. Снуды). На карце Браслаўскага павета пач. XIX ст., складзенай афіцэрамі Расійскага Генштаба, паселішча на Турмасе названа "Рацкова", а на востраве Юркоў – "Иванишки".*

*Паводле перапісу канца XIX ст. на Браслаўшчыне існавалі наступныя астраўныя паселішчы: Востраў Снуды ці Турмас (13 жыхароў), вёска Востраў Струста (24 жыхары), засценак Востраў Струста (13 жыхароў), Лакінскі Востраў (4 гаспадаркі, 24 жыхары).*

*Старажылы згадваюць, што на востраве Турмас (засценак Востраў Снуды) да вайны жылі Шаркялі. Тры сям'і размяшчаліся ў двух хатах. Жылі ў асноўным з возера "хадзілі да неваду". На вялікую зямлю прыплывалі на лодках, зімой – па лёдзе. Але былі моманты (позняя восень і ранняя вясна), калі лёд не трымаў, а на лодцы плысці было немагчыма. Такі стан мог трываць ад некалькіх дзён да тыдня і болей. Жыхары вострава ў такім выпадку не мелі ніякай магчымасці дабрацца да вялікай зямлі. Аднойчы на Турмасе памёр чалавек і нябожчыка даволі доўга не ўдавалася пераправіць на бераг.*

*Да таго, як быў паніжаны ўзровень Браслаўскіх азёр, вастравам з'яўляўся вялікі кавалак зямлі паміж азёр Струста, Балойса, Войса. На гэтай тэрыторыі размяшчалася вёска Міхеўцы (9 гаспадарак, 68 жыхароў). Аднак жыхары гэтай вёскі наўрад ці адчувалі сябе астравіцянамі, бо нават пры высокай вадзе з вялікай зямлёй іх звязвалі мелкаводныя броды да вёсак Антонаўцы і Зарачча.*

*Паводле ўспамінаў старажылаў у 20-30 гг. быў заселены востраў Крыжовы на воз. Бужа. Востраў адкупіў Антон Матуль, які займаўся і сельскай гаспадаркай (6 га на востраве) і быў неблагім шаўцом. Спачатку кліенты да яго перапраўляліся на лодках, а потым Матуль пабудаваў пешаходны мост. Старажылы згадваюць таксама, што на гэтым востраве сяляне зрабілі сховішчы пры набліжэнні фронту першай сусветнай вайны. Мірныя жыхары хаваліся тут і ў час ліпеньскіх баёў 1944 года.*

*Пры савецкай уладзе, у перыяд барацьбы за калектывізацыю, астраўныя сялібы паступова прыйшлі ў заняпад. Людзі пакінулі астравы, пазней іх пераcталі нават заворваць. Гаспадарамі астравоў станавіліся птушкі. З развіццём турызма астравы Браслаўшчыны сталі абжывацца турыстамі. Толькі на востраве Чайчын было арганізавана 5 стацыянарных стаянак турбазы "Браслаўскія азёры". Цяпер востраў Чайчын – адзін з прыродных рэзерватаў Нацыянальнага парка, па якому дазволены толькі экскурсіі.*

*Астравы Браслаўшчыны – частка яе ўнікальнай прыроды, адметнасць рэгіёна, без якіх маляўнічыя краявіды былі б нашмат беднейшымі.*

## *Выдавецкія навіны*

Пабачыў свет зборнік матэрыялаў VI-й навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Браслаўскія сшыткі", якія адбыліся ў маі бягучага года. Зборнік уключае каля 50 артыкулаў даследчыкаў з Беларусі, Польшчы, Германіі, прысвечаных гісторыі і культуры Браслаўшчыны. Сярод іх, напрыклад, матэрыялы вядомых навукоўцаў: Андрэя Радамана "Соймікавая ўхвала шляхты Браслаўскага павета ад 19 снежня 1600 г. у кантэксце вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй (1600-1629 гг.)"; Валерыя Мянжынскага "Звесткі па гісторыі Браслаўшчыны першай паловы XVI ст. у кнігах Метрыкі ВКЛ"; Галены Глагоўскай "Спадчына Пётры Сергіевіча ў Польшчы"; Людмілы Дучыц "Старадаўнія строі браслаўчан" і інш. У дадатках змешчаны біяграфічны нарыс пра вядомага польскага географа Ежы Кандрацкага, які праводзіў даследванні прыроды Браслаўшчыны ў 30-я гг. XX ст. Зборнік выпушчаны дзякуючы дапамозе Віцебскага аддзялення ГА Фонд імя Льва Сапегі, грамадскай ініцыятыве "Сумежжа" з Пастаў.

*****************************************************

Выдавецтва "Рыфтур", якое спецыялізіруецца на выпуску турыстычнай літаратуры падрыхтавала некалькі насценных фотакалендароў. Аўтарам фотаздымкаў з'яўляецца вядомы фотамастак Сяргей Плыткевіч, чалавек які любіць Браслаўшчыну, захапляецца яе краявідамі, часта выязджае ў азёрны край на фотапаляванне. Невыпадкова, што ва ўсе календары трапілі сюжэты з Браслаўшчыны. Каляндар "Дзівосы прыроды" аздоблены вельмі прыгожым здымкам маленькага возерка каля в. Шавуры, які аўтар назваў "Божае Вока". У вялікім календары "Газета "Из рук в руки" прадстаўляе фотамастака Сяргея Плыткевіча" ёсць вельмі прыгожы зімовы краявід наваколля Слабодкі. Яшчэ адзін каляндар "Фотапаляванне" прадстаўляе захапленне фотамастака жывёльным светам Беларусі і Браслаўшчыны. На яго старонках – рэдкія здымкі волатаў беларускай прыроды – зубра, мядзьведзя, а таксама птушак.

Календары выдавецтва ""Рыфтур" – цудоўны падарунак для сяброў, блізкіх, прычым недарагі. Набыць іх можна ў музейным аб'яднанні.

*****************************




Першы нумар беларускага грамадска-культурнага перыядычнага выдання "Czasopis", які выдаецца ў Беластоку ўтрымлівае каляндар, аздоблены рэпрадукцыямі прац мастака, нараджэнца Браслаўшчыны Пётры Сергіевіча. Гэта пейзажы і партрэты, якія цяпер знаходзяцца ў прыватных калекцыях Польшчы.

Два асобнікі часопіса даслала ў музейнае аб'яднанне Алена Глагоўская з Гданьска.

## Рэстаўрацыя




Перад вамі фотаздымак сям'і Нарбутаў, зроблены ў Браславе перад першай сусветнай вайной. Да гэтага ён нідзе не публікаваўся, бо быў значна пашкоджаны часам. Так здымак выглядае пасля рэстаўрацыі, якую выканаў мастак Уладзімір Кандрусевіч.

Доктар Ст.Нарбут сфатаграфаваны з жонкай Людвікай і дзецьмі: Марыяй, Вандай, Галінай, Станіславам перад уваходам у кватэру, якая знаходзілася ў адным з карпусоў лячэбніцы.

## Гартаючы старыя газеты

Гор.**Дзісна**, Віл.губ. Горад наш ляжыць у лагчыне пры сутоках Дзісенкі і Дзьвіны; летам адна і другая рэка даюць толькі выгоду жыцелём, але вясной што году ў часе паводак рэкі робяць шмат шкоды мешчанам, бо часам вада падыймаецца так высока, што палавіна гораду бывае пад вадой. Вось і сёлета дзісенчукі пужаюцца вясны і паводкі.

С прыходам вясны варта было-б нашай гарадзкой управе скончыць работу каля пасадкі новаго бульвару і бульвару на Дарожкаўскай вуліцы, бо і так гэта работа лішне ужо зацягнулася.

*Задзісенкавіч*

М.**Гэрмановічы**. Віленск.губ. Дзіс.пав. Мястэчко нашэ невялічкае ды і тое раздзелено ракой Дзісенкай на дзьве палавіны. Кругом Германавіч шмат вялікіх вёсак, у каторых жывуць скрозь толькі беларусы каталікі, ды хат 20-30 перэсяленцоў літвіноў. І вось сталася у ас такая справа. Мы, беларусы, тут адвечные жыцелі і ніколі для нас не было навукі ў касьцелі па беларуску, заўсёды толькі па польску, хоць мы і мала што з гэтаго разумеем; а як перэсяляліся сюды літвіны, то для сваей малой жменькі зразу дабіліся і песень літоўскіх у касьцелі, і ражанца і ўсяго другога. А мы, хаця нам канешне патрэбна гэта навука ў нашай роднай мове, маўчым і ні маем сьмеласьці дабівацца свайго. Ксяндзы-ж самі гэтаго зрабіць нам не клапоцяцца.

Даждаліся мы нечуваных рэчэй у нас ужо наша маладзеж мала што п'янствуе, яле ешчэ прабуюць на дарогах грабіць і рэзаць людзей. Дайце-ж нам беларускую зразумелую для нас навуку веры нашай у касьцелі, можэ тады словы нашых айцоў духоўных будуць трапляць да галавы і да сэрца людзей!

*Баяравец*

М.**Друя**, Віленск.губ. Дзіс.п. Да сёлетняго году нічога мы ня чулі ў нашым кутку аб тым, што браты нашы, такіе-ж як і мы беларусы, працуюць даўно ужо над тым, каб нашаго брата выцягнуць з паняверкі і пагарды, зрабіць яго раўнёй усім народам. І толькі сёлета, як ластаўка, прадвесьтніца вясны, заблукаўся ажно у наш куток "Беларускі каляндар". Купіў я яго, будучы ў Дзісьне. Прыехаўшы у Друю на рум, сабраў я сваіх хлопцоў і давай ім чытаць "Прамову"; спухалі ўсе, дух затаіўшы, а іншые ажно заплакалі. Дай Бог здароўя тым людзям, што дзеля нашай будучыны працуюць, што за нас пакрыўджэных, ды за нашу пагарджаную мову заступаюцца!

*Кандрат Дубчонак*

**Коўна.** Горад гэто чысто літоўскі. Усюды чутно, як ліецца вольнай хваляй іх родная гутарка. Народ літоўскі гэто ўжо цяпер сьведомы народ. Калісь ён, як і мы беларусы, быў цёмны і чураўся сваей мовы і звычаёў, але апошнімі часамі зразумеў цэну ўсяго свайго роднаго, абудзіўся з векавечнаго сну і паднаў высока сваё нацыональнае знамя. Яны ўжо цяпер не стыдаюцца сваей мовы.

У Коўні яны маюць вельмі важнае таварыство «Saule». Мэта яго - закладаньне школ і шырэньне асьветы у літоўскай мові. Што год з курсоў гэтаго таварыства выходзяць народные вучыцелі - сьвядомые грамадзяне і патрыоты. Яны ідуць у курныя хаты сваіх братоў, нясуць ім асьвету. Эх братэ! Цяжка жыц на чужой старонцы, серад чужых людзей і звычаёў. Тут толькі пазнаеш, што такое родная мова і як яе шанаваць трэба. Эх! Так, здаецца, стаўбы серод Нёмана і паляцеў бы птушкай на Бацьчоўшчыну Беларусь!

*П.Алексюк*

**Коўна.** Пры ковенскім таварыстве жанок, з лютаго месяца будуць устроены жаноцкіе курсы. Жаноцкіе селскагаспадарскіе курсы, гэто адна з найбольшых патрэб вёскі, во ад гаспадыні залежыць бадай увесь лад у хаці і гаспадарцы, а тым часам добрых гаспадынь вёска мае не шмат.

*«Наша Ніва».Факсімільнае выданне. Выпуск4. 1911 г.*

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)